№№115–116
(3654–3655)

27 ліпеня 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Ігар Васільеў вымагаў паўмільёна долараў



Пра размер хабару, які вымагаў намеснік старшыні Мінгарвыканкама Ігар Васільеў, паведаміла прэс-служба КДБ. Чыноўнік цалкам прызнаў сваю віну.

*"Ігар Васільеў вымагаў хабар у памеры 500 тысяч долараў ЗША ў прадстаўнікоў еўрапейскага прадпрыемства-інвестара за спрыяльнае вырашэнне пытання, якое ўваходзіць у яго кампетэнцыю і звязанага з заключэннем інвестыцыйнага дагавора на агульную суму звыш 30 мільёнаў долараў ЗША,* — паведамілі ў КДБ. — *Перадача грашовых сродкаў павінна была ажыццяўляцца дзвюма роўнымі часткамі па 250 тысяч долараў ЗША".*

6 ліпеня Васільева затрымалі супрацоўнікі КДБ у службовым кабінеце пасля атрымання першай часткі хабару.

Пра што сведчыць гэты факт? У першую чаргу пра тое, што ў Беларусі квітнее карупцыя. Праўладная прапаганда талдыча, што чыноўнікі ў нас чэсныя, што "вертыкаль" фарміруецца з самых заслужаных, самых сумленных людзей... І ні слова пра тое, што сама дзяржава стварыла найлепшыя ўмовы для карупцыі. У цывілізаваным свеце грамадскасць мае ўсе правы для кантролю за чыноўнікамі. У нас начальнікаў можа кантраляваць толькі той, хто іх прызначае. У сапраўды дэмакратычных краінах паўнавартасна дзейнічае "чацвёртая ўлада" — незалежныя сродкі масавай інфармацыі. У Беларусі амаль усе газеты, радыё, тэлебачанне — пад абцасам прэзідэнцкай улады. Грамадскія арганізацыі, палітычныя партыі — у зародышы. Праваахоўныя органы служаць не столькі законам, колькі тым жа чыноўнікам. Вось і квітнее карупцыя! Дайшлі да таго, што хабар у 200, 300 ці 500 тысяч долараў — звычайная справа.

Пакуль у краіне будуць спрыяльныя ўмовы для карупцыі — датуль гэтае зло не толькі будзе мець месца на беларускай зямлі, але і з кожным годам множыцца.

**Вера ВІР.**

**АКТУАЛИИ**

*Светлана КАЛИНКИНА*



## Конь в сенате

Известный исторический факт: римский император Калигула ввел в состав сената своего коня. Таким образом, конь по кличке Инцитат вошел в историю как самый высокопоставленный жеребец, а император Калигула долго считался сумасшедшим. Однако сейчас историки пересмотрели свои оценки.

В новой исторической трактовке считается, что Калигула при соблюдении всех демократических процедур (конь был объявлен гражданином Рима, как требовал закон того времени) просто высмеял бездельников. Более того, выяснилось, что когда эксцентричный император был убит, народ выступил против вывода коня из сената. Потому что в отличие от других законодателей, Инцитат никого в тюрьмы не сажал, дурных советов не давал и требовал совсем немного на свое содержание.

Две тысячи лет прошло, а какие очевидные параллели! Калигула, он же Гай Юлий Цезарь, известен своим принципом: «Пусть ненавидят, лишь бы боялись». Ну а конь... Нет, лица в белорусском парламенте человеческие. Но все-таки уже очевидно, что наш правитель тоже сделал свой ход конем, формально использовав для этого демократические процедуры.

Простой пример из жизни сегодняшней Беларуси недавно привел епископ Гомельский и Жлобинский Стефан. Так и сказал: «Самый простой пример». «Вы знаете, что в домах престарелых есть норма, согласно которой лежачему человеку положен один памперс на трое суток? — спросил епископ Стефан у журналиста газеты «Вечерний Гомель». — Можно ли содержать так лежачих людей?»

Я тоже журналист, и я этого не знала. Даже мысли, даже тени подозрения не было, что можно дойти до такой степени цинизма. Громогласно отчитаться, что лежачих больных государство обеспечивает памперсами и подгузниками, засветиться в качестве заботливых благодетелей в СМИ и на телеэкранах, а на самом деле установить издевательскую норму «один — на три дня». Почему не один на месяц или даже на год? Какими физиологическими процессами обоснована эта норма?

Конечно, даже не надо быть медиком, чтобы понимать, что человек от такого «подарка» будет умирать в вони и собственных испражнениях. Но в Палате представителей было 14 депутатов-врачей, большое профессиональное лобби. Как они могли молчать? Те, кто давал клятву Гиппократа. Те, кто знает и видел, что такое лежачий больной. Почему никто из них ни разу даже не заикнулся, что государство просто не имеет права тратить миллионы долларов на то, чтобы запускать в космос спутники или отправлять экспедиции в Антарктиду, когда так страшно умирают собственные граждане?..

14 врачей сидели в Палате представителей как народные избранники, но так истово одобряли все решения власти, что даже не вспомнили о некоторых физиологических отличиях, которые есть между мужчинами и женщинами. Хотя именно из-за этих особенностей строения организма инвалиды-колясочники, лежачие, парализованные мужчины используют не памперсы, а наружные урологические катетеры. Эти злополучные катетеры и мочеприемники вообще не попали в списки изделий санитарно-гигиенического назначения, которыми государство обеспечивает инвалидов. Про тысячи человек, про тысячи больных мужчин просто забыли, о них никто даже не подумал. Будто их нет, будто они уже умерли или испарились. Так какой вообще толк от того, что в парламенте заседали врачи?

Конечно, в XXI веке это вообще позор — иметь такую проблему. Это стыд невероятный — экономить на памперсах и катетерах для больных людей. Это скотство— вычеркнуть из списка тех, кому положены памперсы, глубоких стариков, главный диагноз которых — старость. Это просто какая-то форма государственного людоедства. Потому что простейшее и элементарное, что государство должно обеспечить своим больным и немощным — право жить и умирать, извините, не в моче и фекалиях.

Однако никто из депутатов не осмелился на эти темы даже говорить, не то что добиваться и требовать. Хотя это не политика. Это не защита политзаключенных. Это не с открытым забралом да против коррупции, против силовиков. Это то, что даже в наших условиях они могли и должны были делать. И все равно не стали. Струсили.

Они струсили по мелочи, и тем более трусили по-крупному.

Беларусь вымирает. Разными хитростями выводят из статистики смерти от онкозаболеваний, но очевидное невозможно спрятать: в каждой белорусской семье есть умершие от рака и редко у кого — от старости.

По последним данным РНПЦ онкологии и медицинской радиологии, за последние 10 лет заболеваемость раком в Беларуси выросла на треть, на 34%. Правда, никто по этому поводу не кричит «Караул!». И даже наоборот, нас всячески успокаивают, что не надо паниковать, потому что такая тенденция во всем мире, и дальше будет только хуже.

Вроде все так. Только во всем мире рак выявляют на ранних стадиях и лечат. А у нас — когда человек начинает загибаться, сам идет к врачу, но сделать уже ничего невозможно.

Врачи прекрасно знают это важное отличие. Знают, что во всем мире для выявления рака на ранних стадиях выстроена целая система. Знают, что простейшее и элементарное в ранней диагностике — это анализ крови на онкомаркеры. Вот заболели вы, скажем, ангиной или, абсолютно здоровый, пришли за водительской медсправкой, и вас отправляют сдать такой анализ. Посчитав белки-гормоны в крови, оказывается, можно выявлять опухолевые процессы в самом начале. Только нашему государству это не надо. У нас не нашлось денег. На самые разные причуды и авантюры, на «Славянский базар», на хоккей, на новые самолеты, на новые резиденции деньги есть, а на спасение людей от смертельных стадий рака — нет. И именно депутаты принимали такие законы о государственном бюджете. «За» голосовали даже депутаты-медики.

Кто они после этого?

Врачи? Государственные деятели? Представители народа?..

Чем больше думаешь, тем очевиднее, что конь в сенате это действительно некий символ уровня нынешнего белорусского парламентаризма. Правда, кормим мы его слишком щедро.

**З-ЗА КРАТАЎ**

## У Дашкевіча запаленне лёгкіх

*Ён змешчаны ў медсанчасць. Пра гэта ў сваім фэйсбуку паведаміла нявеста Зміцера Наста Палажанка.*

Нагадаем: Зміцер Дашкевіч больш за 1,5 года знаходзіцца за кратамі.

Нядаўна ў дачыненні да яго распачалі новую справу — за злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы, якая выконвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі.

У выпадку прызнання віны Дашкевічу пагражае пазбаўленне волі тэрмінам да аднаго года (цяпер яму застаецца адбыць пяць месяцаў пакарання).

Усе судовыя працэсы па справах Зміцера Дашкевіча былі расцэнены праваабаронцамі як палітычна матываваныя, а арганізацыя «Міжнародная амністыя» двойчы прызнавала яго вязнем сумлення.

**Дарэчы, Зміцеру Дашкевічу можна адправіць ліст або паштоўку на адрас: вул.Савецкая, 205, г.Глыбокае, Віцебская вобл., 211791, папраўчая калонія №13.**

## Каваленка напісаў прашэнне аб вызваленні

*Пра гэта паведамілі брат і бацька Каваленкі, якія днямі атрымалі з ім спатканне.*

Прашэнне ў адзін радок: *«Прашу мяне вызваліць».*

Нагадаем, што Сяргей апынуўся ў турме пасля таго, як вывесіў нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг на галоўнай ёлцы Віцебска. Спачатку атрымаў прысуд з адтэрміноўкай, потым — рэальны.

**ПОСЛЕ СКАНДАЛА**

## В тюрьму не посадят

Материалы по факту жестокого обращения с птенцами бакланов переданы в Лукомльский сельский совет для составления административного протокола на виновного (фамилия пока не сообщается) и передачи в суд.

**РЭЗАНАНС**

## "Пакуль Алесь Бяляцкі і іншыя палітвязні голасу ЕС не чуюць"

*Такі асноўны пасыл публікацыі ў аўтарытэтным незалежным палітычным выданні EUobserver.com, аўтар якой, Прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека Суэр Белхасэн, звяртаецца да Еўрасаюза ў сувязі з пагаршэннем сітуацыі з палітвязнямі ў Беларусі.*

"Алесь Бяляцкі, кандыдат на атрыманне Нобелеўскай прэміі міру, віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека і прэзідэнт беларускага праваабарончага цэнтра «Вясна», быў арыштаваны амаль год таму і прыгавораны да чатырох з паловай гадоў пазбаўлення волі.

Рэжым Лукашэнкі сфабрыкаваў абвінавачванні ва ўхіленні ад выплаты падаткаў і правёў палітычна матываваны судовы працэс для таго, каб пакласці канец намаганням Алеся Бяляцкага па абароне правоў чалавека ў Беларусі.

Першапачатковы шок ад арышту выклікаў публічную рэакцыю на Захадзе, аднак зараз Еўрасаюз вытхнуўся.

Што ж адбываецца за кратамі?

У апошнія тыдні адміністрацыя калоніі рэзка абмежавала Алеся Бяляцкага як у магчымасці атрымання прадуктовых перадач, так і ў без таго нешматлікіх спатканнях са сваякамі. Іншых зняволеных караюць за размовы з ім. Супраць яго ўжыты дысцыплінарныя санкцыі, праз якія ён не змог выйсці на волю па амністыі.

**Алесь Бяляцкі** — не першая ахвяра ціску з боку турэмнай адміністрацыі. Падобныя меры ўжываліся для таго, каб дамагчыся прашэння пра памілаванне ад іншых палітвязняў, у тым ліку былога кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава.

Калі Лукашэнка быў на фінальным матчы Еўра-2012, думкамі ён быў далёкі ад Алеся Бяляцкага. Тым не менш гэты праваабаронца застаецца стрэмкай у целе рэжыму і крыніцай пастаяннага свербу для яго.

Нягледзячы на пастаянны ціск, які аказваецца на Алеся Бяляцкага з мэтай прызнання ім сваёй віны, ён адмаўляецца зрабіць гэта. Але цвёрдасць палітвязня за кратамі павінна знайсці водгук у ЕС.

Што можа зрабіць ЕС супраць дыктатараў, якія засядзеліся на сваіх пасадах?

Саюз годны пахвалы за падтрымку рэзалюцыі Савета па правах чалавека ААН ад 5 ліпеня, якой быў заснаваны мандат спецдакладчыка па Беларусі. Але можна зрабіць больш. 14 палітычных зняволеных застаюцца за кратамі, спарадычныя вызваленні накшталт выхаду на волю **Андрэя Саннікава і Зміцера Бандарэнкі** ў красавіку — гэта не больш чым хітрыкі рэжыму, які хоча выйграць час і прадухіліць увядзенне новых санкцый з боку ЕС.

З тых часоў сітуацыя для палітвязняў толькі пагаршаецца... Беларускія ўлады хочуць пераканаць ЕС у неабходнасці адмены ціску і пачатку дыялогу без папярэдніх умоў. Але Еўрасаюз павінен цвёрда стаяць на патрабаванні безумоўнага вызвалення і рэабілітацыі ўсіх палітвязняў у якасці ўмовы для вядзення якіх-небудзь перамоў.

Дзяржавы — сябры ЕС чакалі да вясны гэтага года, перш чым ухваліць шэраг мэтавых санкцый у дачыненні да людзей і кампаній, якія падтрымліваюць рэпрэсіўны рэжым Лукашэнкі.

Узгоднены падыход, які спалучае санкцыі супраць «кашалькоў» дыктатара і прыцягненне да адказнасці еўрапейскіх кампаній, што падтрымліваюць рэжым, неабходны для таго, каб прадухіліць захаванне дыктатуры.

На чацвёртай сустрэчы міністраў замежных спраў «Усходняга партнёрства» ЕС павінен заняць цвёрдую і бескампрамісную пазіцыю ў дачыненні да апошняга еўрапейскага дыктатара. Яна павінна прытрымлівацца стратэгіі прасоўвання дэмакратыі і правоў чалавека, прынятай у чэрвені дзяржавамі — сябрамі ЕС.

Таксама ЕС павінен працягнуць сустрэчы з лідарамі беларускай апазіцыі і падтрымку грамадзянскай супольнасці ў той час, як рэжым спрабуе абмяжоўваць выезд з краіны і ператварыць яе ў гіганцкую турму. Беларускія ўлады па-ранейшаму адмаўляюцца весці перамовы аб спрашчэнні візавага рэжыму. ЕС неабходна знайсці альтэрнатыўныя шляхі вырашэння гэтага пытання.

Знайшла справа Бяляцкага водгук? Ці будзе яго маўчанне настолькі моцным, каб выклікаць рэзананс? Час пакажа. Міжнародная федэрацыя за правы чалавека будзе працягваць уважліва сачыць за адносінамі ЕС з Беларуссю.

Пакуль Алесь Бяляцкі і іншыя палітвязні голасу ЕС не чуюць.

**Суэр БЕЛХАСЭН.**

## Паўлу Севярынцу афіцыйна адмовілі ў амністыі

*Палітыка выклікалі ў дзяжурную часць спецкамендатуры №7 і паказалі паперу, у якой паведамляецца, што амністыя яго не датычыць.*

Нагадаем, што Павел адбывае тры гады абмежавання волі. Яго прызналі вінаватым у арганізацыі масавых беспарадкаў 19 снежня 2010 года.

Апошняя амністыя была праведзена ў Беларусі ў сярэдзіне ліпеня. Ніводны палітвязень па амністыі вызвалены не быў.

*«Палітвязні сёння — гэта закладнікі,* — кажа Севярынец. — *Відавочна, што выгандляваць грошы за вызваленне сваіх апанентаў на Захадзе рэжыму не ўдалося. Гэта значыць, палітвязні і надалей застануцца ў турмах».*



## Кто эти депутаты-медики?

**1.Антонова Инна Васильевна.** Врач-лечебник, врач-организатор здравоохранения. В Палату представителей пришла с должности заместителя главного врача медицинского объединения Новополоцка.

**2.Богданович Лариса Николаевна.** Врач-педиатр, врач-невролог, врач-организатор здравоохранения. В прошлом — руководитель Центра медицинской реабилитации для детей с психоневрологическими заболеваниями Бреста.

**3.Величко Олег Иванович.** Врач-хирург, врач-организатор здравоохранения высшей квалификационной категории. Ранее — главный врач Брестской городской больницы скорой медицинской помощи.

**4.Вершалович Лариса Георгиевна.** Терапевт. До депутатства — заместитель главного врача по амбулаторно-поликлинической работе Лунинецкого РТМО.

**5.Короп Роман Леонидович.** Ранее — главный врач лечебно-профилактического учреждения «Городская клиническая больница скорой медицинской помощи» Минска.

**6.Левицкая Анна Викторовна.** В Палату представителей пришла с должности главного врача Минской центральной районной больницы.

**7.Лютиков Василий Владимирович.** Врач-хирург, врач-травматолог-ортопед, врач-организатор здравоохранения. Главный врач медицинского центра «БелАЗ».

**8.Овчинников Виктор Васильевич.** Врач-хирург, врач-организатор здравоохранения. Ранее — главный врач Витебской областной клинической больницы.

**9.Ремша Марина Ивановна.** Врач-лечебник. До Палаты представителей — главный врач 4-й детской поликлиники Гродно.

**10.Сакадынец Олег Степанович.** Имеет высшую квалификационную категорию врача-психиатра и врача-организатора здравоохранения. Почетный член Ассоциации психотерапевтов Республики Беларусь. Ранее — первый заместитель начальника управления здравоохранения Могилевского облисполкома.

**11.Спильченко Игорь Азорович.** Врач-анестезиолог-реаниматолог, врач-организатор здравоохранения. Избирался в депутаты с должности главного врача Вилейской районной больницы.

**12.Федорук Нина Федоровна.** Врач-терапевт, врач-организатор здравоохранения высшей квалификационной категории. В прошлом — главный врач Брестского районного территориально-медицинского объединения.

**13.Шамаль Елена Владимировна.** Врач-лечебник. Ранее — заместитель главного врача по медицинской части Бобруйской центральной больницы.

**14.Шилова Светлана Дмитриевна.** Главный акушер-гинеколог Минздрава.

